Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 26 (2480) 27 чэрвеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ ЗМАГАЕЦЦА...



Брэсцкая крэпасць-герой... Яе найчасцей успамінаюць 22 чэрвеня, у дзень, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Сёлета гэтая дата аб'яўлена Кабінетам Міністраў рэспублікі Беларусь Днём агульнанацыянальнай памяці і смутку.

НА ЗДЫМКУ: сімвал Брэсцкай крэпасці -- Холмскія вароты.

(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).

# КАРАНІ НЕ ГУБЛЯЮЦЦА І ПРАЗ ГАДЫ

**Нягледзячы на ўсе сумныя падзеі апошняга часу, у жыцці, на шчасце, усё ж такі ёсць месца і нечаму прыемнаму, падзеям, якія пакідаюць пасля сябе толькі добры і светлы ўспамін. Да такіх здарэнняў старшыня жаночай партыі "Надзея", выканаўчы сакратар Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Валянціна ПАЛЕВІКОВА адносіць нядаўнюю сваю паездку ў Казахстан і сустрэчу там з нашымі землякамі.**

-- У Казахстан я трапіла з афіцыйнай дэлегацыяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, -- гаворыць яна. -- Было шмат работы, звязанай менавіта з галоўнай мэтай візіту. Але, бадай, ці не самымі запамінальнымі і кранаючымі сталі сустрэчы з нашымі землякамі, прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Ка[illegible]ане. Увогуле там шмат [illegible]ыхадцаў з Беларусі -- 170 тысяч чалавек. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: адна толькі цаліна калісьці прыцягнула тысячы маладых людзей, спецыялістаў. А наогул мы бачылі нямала і казахаў, якія ма[illegible] пэўную сувязь з наша[illegible]зінай -- нехта са старых падчас Вялікай Айчыннай ваяваў на тэрыторыі Беларусі, прадстаўнікі сярэдняга пакалення -- вучыліся ў нас, у маладых -- на Беларусі ёсць сваякі і г. д. А таму адносіны да дэлегацыі праяўляліся надзвычай цёплыя. Людзі сумуюць па страчаных сувязях, кантактах. Сёння ж далёка не кожны ў стане дазволіць сабе паездку на радзіму: пералёт толькі ў адзін бок каштуе недзе каля трохсот долараў.

Два дні нас прымала беларуская дыяспара. Адбылася выдатная сустрэча ў Казахстанскай дзяржаўнай архітэктурна-будаўнічай акадэміі, рэктар якой -- наш зямляк, вельмі таленавіты і цікавы чалавек Павел Атрушкевіч. Каб пабачыць нас, паразмаўляць, прыйшлі не толькі беларусы, запрошаныя Атрушкевічам, але нямала людзей, што даведаліся пра нашу дэлегацыю з газет. Гутарка атрымалася зацікаўленая і шчырая.

**НА ЗДЫМКАХ: (на 1-й і 4-й стар.) дэлегацыя Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў Алма-Аты ў час сустрэчы з беларусамі Казахстана.**

(Заканчэнне на 4-й стар.).



# ДЗВЕ ПЕСНІ З "БОСКАЙ КАМЕДЫІ"

**У 1301 годзе пасля жорсткай і крывавай барацьбы з "белымі" гвельфамі ў Фларэнцыі да ўлады прыйшлі "чорныя" гвельфы -- прыхільнікі Папы Баніфацыя VIII. Дантэ, які быў праціўнікам яго дыктатарскай палітыкі і належаў да партыі "белых" гвельфаў, быў выгнаны з роднага горада і завочна асуджаны да спальвання на кастры. На чужыне Дантэ з болем у сэрцы адчуў, што людзі "заблудзілі" і загразлі ў грахах. Уладары і пастыры нічога не рабілі, каб скончыліся разлады, войны, каб выгнаннікі хутчэй вярнуліся ў свае родныя мясціны. І ў "Боскай камедыі", напісанай ім у выгнанні, выразна праявілася жаданне дапамагчы людзям ратаваць свае душы.**

**"Боская камедыя" Дантэ Аліг'еры -- найбольш яркі і значны твор сусветнай паэзіі, галоўнай тэмай якога з'яўляецца Усеабдымная Любоў -- любоў да Бога, да жанчыны, да чалавека, да прыроды, да Радзімы. Пакаянне і ачышчэнне, як сцвярджае Дантэ, неабходныя ўмовы спаткання людзей з Богам і дасягнення імі вышэйшай гармоніі паміж сабою. На жаль, у апошні час запаветнай мэтаю мноства людзей, як і ў часы Дантэ, стала багацце не духоўнае, а матэрыяльнае. Бескарыслівасць і дабрату мала хто лічыць лепшымі чалавечымі якасцямі. Гэтая акалічнасць, жаданне зрабіць нешта значнае для свайго народа і ўпэўненасць Алеся Разанава, што мне гэта пад сілу, прымусілі мяне ўзяцца за пераклад "Боскай камедыі". Грэшныя думкі і ўчынкі ў далёкай маладосці, ачышчэнне каханнем і цяжкімі стратамі блізкіх мне людзей і, нарэшце, духоўнае ўзнясенне пасля бязбожнага і несправядлівага цкавання "таварышамі" наблізілі мяне да разумення "Боскай камедыі" Дантэ.**

**На пачатку лютага 1996 года пасля больш чым трохгадовай самаадданай працы я пераклаў апошні 14221-шы радок вечнай, як і Біблія, кнігі і прапаную чытачам "Голасу Радзімы" дзве са ста песень геніяльнага твора.**

**Уладзімір СКАРЫНКІН.**

*28 траўня 1996 г.*

(Дзве песні з "Боскай камедыі" чытайце на 6-й і 8-й стар.).

*НАТАТКІ З СЕМІНАРА*

# НА СКРЫЖАВАННІ ДВУХ ШЛЯХОЎ

**У апошнія дні мая ў сталічным Доме літаратара прайшоў навукова-практычны семінар "Грамадзянская супольнасць і праблемы нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі", якую наладзіў грамадскі навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва" пры падтрымцы Фонду Сораса. На семінар прыехала звыш 50 удзельнікаў з розных гарадоў Беларусі, а таксама краін блізкага і далёкага замежжа.**

Сама па сабе праблема ідэнтыфікацыі беларусаў і вызначэння сябе як нацыі сёння вельмі актуальная, а таму семінар атрымаўся надзвычай цікавым і плённым. Падзяліцца распрацоўкамі і абмеркаваць мадэль сучаснай ідэалогіі Беларусі на бліжэйшую будучыню сабраліся прадстаўнікі дзвюх асноўных плыняў: умоўна кажучы, "нацыяналісты",

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА*

## ПАТРАБУЮЦЬ АДНАЎЛЕННЯ ГІСТАРЫЧНАЙ ПРАЎДЫ

**Група прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі, а таксама члены Беларускага рэспубліканскага аб'яднання "Гістарычныя веды", занепакоеныя зместам шэрагу энцыклапедычных выданняў ("Энцыклапедыя гісторыі Беларусі", 1 і 2 том; "Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі", "Энцыклапедычны даведнік "Беларусь" (1995 г.) і інш.), якія выйшлі ў свет у апошнія гады, звярнуліся да Прэзідэнта Беларусі з адкрытым лістом. Яны лічаць, што многія "матэрыялы названых выданняў носяць тэндэнцыйны, палітызаваны характар, скажаюць гістарычную праўду аб развіцці нашай дзяржавы, культуры, навукі, адукацыі. У шэрагу выпадкаў яны прыніжаюць ролю вядомых дзяржаўных дзеячаў, адначасова ўсхваляючы людзей, якіх наогул цяжка аднесці да дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, да аўтарытэтаў навукі і культуры. Шэраг матэрыялаў носіць яўна выказаны антырускі характар, асобныя артыкулы прасякнуты русафобіяй, што непрымальна наогул і не садзейнічае развіццю інтэграцыйных працэсаў Супольнасці Беларусі і Расіі.**

**Аўтары ліста патрабуюць "вывесці выдавецтва "БелЭН" з падначалення Дзяржкамдруку і перадаць яго ў адміністрацыю Прэзідэнта. Навуковае кіраўніцтва павінна забяспечвацца навукова-метадычным саветам на чале з вучоным з сусветным імем. Навукова-метадычны і рэдакцыйны саветы павінны прызначацца указам Прэзідэнта".**

*БІБЛІЯТЭКА ІМЯ ЛЫНЬКОВА*



**У Віцебску адкрылася новая бібліятэка імя Міхася Лынькова. Яе кніжны фонд складае больш за 36 тысяч кніг, а першымі наведвальнікамі сталі юныя жыхары горада. На прэзентацыю бібліятэк[illegible]ы выставілі адлюстраванні казачных персан[illegible]аў, любімых герояў.**

**НА ЗДЫМКУ: у адной з залаў бібліятэкі.**

*ДАМАГЛІСЯ*

## БЕЛАРУСЬ -- У КАНФЕРЭНЦЫІ ПА РАЗЗБРАЕННЮ

**Рэспубліка Беларусь 17 чэрвеня стала паўнапраўным членам Канферэнцыі па раззбраенню, створанай у Жэневе ў 1979 годзе.**

**Удзел у працы гэтага форуму дазволіць нашай краіне актыўна ўплываць на працэс выпрацоўкі падыходаў і рашэнняў па найважнейшых праблемах у галіне міжнароднай бяспекі і раззбраення, а таксама адстойваць свае інтарэсы на міжнароднай арэне.**

**Беларусь дабівалася членства ў гэтым прэстыжным міжнародным форуме з 1991 года.**

*"Я думаю, што тут не трэба прыпісваць заслугі выключна фронту. Я тлумачу гэтыя падзеі тым, што падрастае пакаленне людзей, для якіх каштоўнасці, што важныя для фронту, важныя і патрэбныя і для іх. І калі гэтыя людзі выходзяць, то мы, маючы палітычны вопыт, імкнёмся дабіцца, каб гэта праходзіла ў арганізаваных формах і не выходзіла за межы закона. Я не пагадзіўся б з такім тэзісам, што фронт вывеў людзей. Яны самі выйшлі, яны многае разумеюць, яны бачаць, што робіцца. Пры гэтым фронт выкарыстоўвае свае арганізацыйныя магчымасці толькі для таго, каб гэтыя падзеі развіваліся ў адпаведнасці з законам, цывілізаванымі еўрапейскімі нормамі. З іншага боку, зразумела, франтаўцы падзяляюць тыя памкненні моладзі, сёння ў нас разыходжанняў няма, мы разам, і я спадзяюся, што мы і далей не будзем адставаць ад моладзі. Яна ўжо расла ў іншых умовах, сённяшнія юнакі і дзяўчаты ўжо не былі ў камсамоле, яны ведаюць, што такое плюралізм, разумеюць, што не бывае ісціны ў апошняй інстанцыі. Новае пакаленне, якое падрастае цяпер, усяліла ў мяне надзею, што справа незалежнай, дэмакратычнай еўрапейскай, цывілізаванай Беларусі не памрэ. Канчаткова яе здзейсняць вось яны".*

*(В. а. старшыні Сойма БНФ Лявон БАРШЧЭЎСКІ аб веснавых акцыях пратэсту ў Беларусі).*

*УПЕРШЫНЮ*



**На Брэсцкім электрамеханічным канцэрне створаны і ўжо выпускае прадукцыю цэх электралічыльнікаў, якія раней у Беларусі не выпускаліся. Робяць іх тут двух відаў -- адна- і трохфазныя. Брэсцкія электралічыльнікі па вартасці ацанілі тыя, хто іх набыў: яны спраўныя ў эксплуатацыі. У гэтым годзе будзе выпушчана звыш 30 тысяч такіх агрэгатаў.**

**НА ЗДЫМКУ: участак, дзе збіраюцца і выпрабоўваюцца аднафазныя лічыльнікі. Тут паспяхова працуе наладчыца Аліна САПОНАВА.**

*КРОПКА НАД "І"*

## КУРАПАТЫ -- СПРАВА РУК НКУС

**Сродкі масавай інфармацыі Беларусі паведамілі, што 1 снежня 1995 года крымінальная справа аб масавых расстрэлах мірных грамадзян у лясным масіве Курапаты спынена. Дакумент, які днямі перададзены ў Вярхоўны Савет Беларусі, падпісаў першы намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Уладзімір Кандрацьеў.**

**У ім паведамляецца аб глыбокім і ўсебаковым вывучэнні справы з прыцягненнем за[illegible]ных крыніц інфармацыі, у прыватнасці -- Ге[illegible]ніі і Ізраіля. У выніку заключэнне Генеральнай пракуратуры адназначнае: "Аналіз наяўных у крымінальнай справе даных дае магчымасць зрабіць выснову аб тым, што ў лясным масіве Курапаты ў 1937--1941 гадах органамі НКУС БССР праводзіліся масавыя расстрэлы грамадзян".**

**Гэтае расследаванне праводзілася па патрабаванню так званага Мінскага гарадског[illegible]уба гістарычных ведаў, які насуперак [illegible]там даводзіў, што ў Курапатах ляжаць ахвяры фашысцкага генацыду, а не сталінскіх рэпрэсій. Меркаванні "грамадскай камісіі" афіцыйна лічацца беспадстаўнымі.**

*КОНКУРС У ВІЦЕБСКУ*



**Абласны конкурс прафесійнага майстэрства повараў і кандытараў прайшоў у Віцебску. Лепшай сярод кандытараў стала Іна Счасная з віцебскага рэстарана "Надзея". Яе тарты выклікалі захапленне нават у прафесіяналаў. У повараў лепшай прызнана работа Н.Аўтуховай з рэстарана "Орша".**

**НА ЗДЫМКУ: знаёмства з работамі кулінараў.**

*СУБСІДЫІ ЧЫГУНЦЫ*

## БУДЗЕ Ў МІНСКУ НОВЫ ВАКЗАЛ

**Кабінет Міністраў выдзеліў Беларускай чыгунцы субсідыі 200 мільярдаў долараў на прадаўжэнне будаўніцтва комплексу на Прывакзальнай плошчы ў Мінску. З'явілася ўпэўненасць, што ўрад рэспублікі з гэтага часу будзе сур'ёзна ставіцца да яе праблем. Тым больш, што цяжкасцей у гэтай транспартнай галіне нямала. Толькі ў першым квартале затраты на тэхнічнае абслугоўванне і капітальны рамонт рухомага саставу склалі 70,7 мільярда рублёў. Востра стаіць і праблема з абнаўленнем вельмі зношаных цеплавозаў і вагонаў. Так, 95 працэнтаў пасажырскіх цеплавозаў ТЭП-60 патрабуюць замены. 7 з наяўных 11 цеплавозаў 2ТЭП-60 адпрацавалі сваё, як і 51 дызель-поезд са ста.**

*СУМНЫ РЭКОРД*

## ЗА КРАТАМІ

**Агульная колькасць грамадзян Беларусі, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі і ўтрымоўваюцца ў следчых ізалятарах, складае 57 685 чалавек, 6 330 чалавек знаходзяцца ў спецкамендатурах, 43 776 -- на ўліку ў інспекцыях папраўчых работ. Спецыялісты МУС канстатуюць, што колькасць спецкантынгенту дасягнула ў рэспубліцы рэкорднага за апошнія 30 гадоў узроўню.**

**За пяць месяцаў бягучага года на ўтрыманне сістэмы ППУ дзяржава выдаткавала 155,5 мільярда рублёў. Утрыманне аднаго зняволенага абыходзіцца краіне ў 636 тысяч рублёў штомесячна.**

**Найвастрэйшая праблема -- перапоўненасць. Следчыя ізалятары перапоўнены на 70 працэнтаў, ППУ -- на 41,8 працэнта. Штомесячны прырост "насельніцтва" ў папраўча-працоўных установах складае 620 чалавек. Пры такой перапоўненасці ў ППУ і С130 практычна немагчыма захаваць санітарныя нормы і правілы ўтрымання зняволеных, таму сярод іх узрастае захворванне на сухоты і іншыя інфекцыйныя хваробы.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У ТАЛІНЕ адкрылася Генеральнае консульства Беларусі. На ўрачыстай цырымоніі ў сталіцы Эстоніі прысутнічалі намеснік міністра замежных спраў Беларусі Андрэй Саннікаў, кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Эстоніі Сійм Калас, прадстаўнікі беларускіх згуртаванняў у гэтай краіне.

СКАНДАЛЬНЫ інцыдэнт адбыўся з дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, генеральным сакратаром Эканамічнага суда СНД Віктарам Ганчаром. Яго машына, на якой В.Ганчар позна ноччу вяртаўся дамоў, была абстраляна міліцыяй. Паранена яго памочнік Кацярына Антонік. В.Ганчар на прэс-канферэнцыі не пагадзіўся з версіяй міліцыі і заявіў: "...Працягваецца серыял беспрэцэдэнтнага запалохвання дэпутатаў, якія маюць свой пункт погляду".

ПАЧАЎСЯ першы этап экспедыцыі "Чарнобыльскі след". 9 чэрвеня ад прыстані Лоева адышла яхта мінскага аматарскага клуба "Мерыдыян". Яхта пройдзе па маршруту Днепр--Чорнае мора--Міжземнае мора з заходам у парты Турцыі, Балгарыі, Грэцыі, Італіі, Францыі, Іспаніі. Асноўная мэта экспедыцыі -- яшчэ раз нагадаць народам Еўропы пра чарнобыльскую катастрофу і яе паследкі на Беларусі.

БЕЛАРУСКІ фонд Сораса не раз ужо аказваў дапамогу Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэцы. Сёлета ў чэрвені дзякуючы яго фінансавай дапамозе стаў магчымым удзел у III міжнароднай канферэнцыі "Крым-96" "Бібліятэкі і асацыяцыі ў свеце, які змяняецца; новыя факты супрацоўніцтва і новыя тэхналогіі" вядучых спецыялістаў бібліятэкі. Атрыманы ў 1994 годзе грант 11 тысяч долараў даў магчымасць беларускім вучоным-аграрнікам атрымліваць і выкарыстоўваць сусветную інфармацыю.

ПЕРАХОДНЫЯ Чырвоныя сцягі ў якасці стымулу працы ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, сацыяльна-культурнай сферы вяртаюцца ў наша жыццё. У савецкія гады яны ўручаліся за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве. Напрыклад, паводле рашэння Гродзенскага аблвыканкома лепшыя па выніках працы будуць узнагароджвацца Ганаровымі пераходнымі сцягамі, дыпломамі і іншымі прэміямі.

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*

## НАС З'ЯДАЕ РАК

**Як канстатуе статыстыка, анкалагічныя захворванні ў Беларусі сёння знаходзяцца на другім месцы сярод прычын смяротнасці. Па-ранейшаму першае месца сярод анкалагічных захворванняў і па колькасці, і па смяротнасці займае рак лёгкіх. У мінулым годзе было выяўлена больш за 500 такіх хворых, 30 працэнтаў якіх не пражывалі нават 12 месяцаў. Другое і трэцяе месца па тых жа крытэрыях адпаведна займаюць рак страўніка і рак малочнай залозы. У апошнія гады медыкам усё часцей і часцей прыходзіцца сутыкацца з запушчанымі формамі хваробы, калі дапамагчы, выратаваць жыццё чалавеку амаль немагчыма. Асноўнымі прычынамі гэтага з'яўляюцца, па-першае, абыякавае стаўленне насельніцтва да ўласнага здароўя (56--57 працэнтаў хворых вельмі позна звяртаюцца па дапамогу), па-другое, скрыты ход хваробы, калі ўрачам цяжка яе выявіць, і, па-трэцяе, урачэбныя памылкі пры пастаноўцы дыягназу, якія складаюць 10 працэнтаў усіх прычын.**

# БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ ЗМАГАЕЦЦА...






(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

160-е лета сустракае Брэсцкая крэпасць. У чэрвені 1836 года былі закладзены яе муры. Колькі войнаў пракацілася праз яе казематы, колькі ахвяр прыняла яе скрываўленая зямля... Сведкамі колькіх подзвігаў і мужнасці чалавечага духу былі яе сённяшнія руіны...

Першымі гэтыя лепшыя якасці праявілі жаўнеры Войска Польскага, калі 15 верасня 1939 года прынялі бой з танкавымі падраздзяленнямі фашысцкага генерала Гудэрыяна.

Затым муры цытадэлі былі сведкамі ганебнага відовішча -- сумеснага парада нямецкіх і савецкіх войскаў, калі побач развяваліся фашысцкі са свастыкай і савецкі з сярпом і молатам сцягі Германіі і СССР.

З гісторыі нічога не выкінеш. Ні здрады, ні бязмежнага гераізму, які праявілі 55 гадоў таму назад воіны брэсцкага гарнізона. Вось ужо 25 гадоў гарыць Вечны агонь у памяць аб тых, хто тут змагаўся і мужна загінуў. І па сённяшні дзень знаходзяць у Брэсцкай крэпасці астанкі палеглых яе абаронцаў.

І сёння крэпасць над Бугам у змаганні. Цяпер ужо ў змаганні за... сваё годнае існаванне. Мінулі савецкія гады, і "Мемарыял Брэсцкая крэпасць-герой" пастунова прыходзіць у заняпад. Таму па рашэнню Прэзідэнта Беларусі 22 чэрвеня тут адбыўся тэлемарафон, сродкі ад якога пойдуць на рэканструкцыю і абнаўленне мемарыяла.

Нельга дапусціць, каб такія старонкі гісторыі сцерліся з нашай памяці.

Ян ГІЛУЦЁВІЧ.

НА ЗДЫМКАХ: ля Цірaспальскіх варот. Тут у першыя гадзіны вайны ішлі самыя жорсткія бітвы; руіны крэпасці. Тут заўсёды шмат наведвальнікаў. Асабліва цікаўныя дзеці, якія пра тую далёкую вайну ведаюць толькі з аповядаў дарослых; любіць пасядзець з маладымі воінамі адзін з легендарных абаронцаў крэпасці, былы малодшы сяржант 393-га зенітнага артылерыйскага палка Радзівон СЕМЯНЮК. Гэта ён схаваў і пасля вайны вярнуў крэпасці яе сцяг.

Фота Эдуарда КАБЯКА.

# НА СКРЫЖАВАННІ ДВУХ ШЛЯХОЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

якія лічаць, што адзінай формай інтэграцыйнай ідэалогіі можа быць ідэалогія нацыяналізму ў шырокім і пазітыўным сэнсе гэтага слова, і так *званыя "лібералы"*, якія стаяць на пазіцыях дзяржаўнасці і суверэнітэту Беларусі, але лічаць, што ў цяперашніх умовах нацыянальная ідэя не здольна аб'яднаць грамадства, а таму пакуль мусіць чакаць свайго часу.

На семінары былі закрануты і канкрэтныя пытанні ідэнтыфікацыі беларусаў у розныя эпохі ў дакладах прафесара Анатоля Грыцкевіча "Праблемы нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі ў XVII--XVIII ст. ст.", кандыдата гістарычных навук Захара Шыбекі "Працэсы нацыянальнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі ў XIX -- пачатку XX стагоддзяў", кандыдата гістарычных навук Алега Трусава "Роля дзяржаўных сімвалаў у самавызначэнні беларускага і рускага народаў".

Аднак трэба адзначыць (аб гэтым сведчыць таксама вопыт апошніх гадоў), што гісторыя як эмпірычная навука, якая займаецца гістарычнымі фактамі, нягледзячы на пастаноўку пытання і наяўнасць тэкстаў, не мае метадалагічных сродкаў і інтэлектуальнага інструментарыя для вырашэння данай праблемы. Як вядома, у свеце пытаннямі паўставання нацыі займаюцца такія навукі, як гістарычная сацыялогія, культурная антрапалогія, а таксама сацыяльна-эканамічная гісторыя, дзе даўно адпрацаваны схемы, мадэлі, этапы і тыпы нацыяў, перыяды іх узнікнення. Цешыць, што беларускія навукоўцы прыйшлі нарэшце да разумення, што не варта займацца "вынаходніцтвам веласіпеда", калі ў свеце існуе шмат распрацовак і ведаў, якія можна выкарыстоўваць у мясцовым кантэксце.

У гэтым сэнсе вельмі цікавым быў даклад навукоўца Скарынінскага цэнтра Ігара Бабкова "Генеалогія беларускай ідэі; культаралагічны аспект". У ім ён прапанаваў разгледзець нацыянальную ідэю як культурны архіў або нацыянальны гіпертэкст; нацыянальную саматоеснасць -- як актуальны сённяшні зрэз, г.зн. частку агульнай нацыянальнай ідэі, якая запатрабавана цяперашняй культурнай свядомасцю; і, нарэшце, нацыянальную самасвядомасць -- як своеасаблівую самарэфлексію ці спробу асобных людзей усвядоміць цяперашнюю сітуацыю і адрэфлексаваць яе. Спадар Бабкоў таксама зазначыў, што галоўная праблема Беларусі ў тым, што ў адрозненне ад краін Заходняй Еўропы, дзе кожная нацыя, са сваёй дзяржавай і ўладай напрыканцы XIX -- пачатку XX стагоддзяў пастунова пераўтваралася ў грамадзянскую супольнасць, у нас жа адбывалася ўсё з дакладнасцю да наадварот: ёсць дзяржава, ёсць супс асць грамадзянаў, але пакуль ням цыі. А таму ўсе шматлікія групы насельніцтва, аб'яднаныя агульнай дзяржавай, тэрыторыяй і грамадзянствам, мусяць дамаўляцца і шукаць палітычныя, эканамічныя, культурныя кампрамісы, у выніку якіх на нашых вачах і паўстае тое, што, маг а, заўтра будзе ўспрымацца як аруская нацыя са сваёй ментальнасцю, культурай і г.д. Істотна ў гэтым сэнсе, што нацыянальная ідэя з'яўляецца важным складнікам грамадзянскай супольнасці, які ў апошні час прызнаецца нават той часткай грамадскасці, якая традыцыйна ў нядаўнім мінулым ставілася да яе адмоўна або крытычна.

Аб "нацыянальнай ідэі як форме артыкуляцыі інтарэсаў грамадзянскай супольнасці" казаў кандыдат філасофскіх навук Уладзімір Роўда. У прыватнасці, ён зазначыў, што ва ўсім свеце да нацыяналізму ставяцца нармальна, асабліва там, дзе існуюць сталыя нацыянальныя дзяржавы, якія паспяхова развіваюцца. Спасылаючыся на працу прафесара антрапалогіі Кембрыджскага універсітэта Эрнеста Бірнэра "Нацыі і нацыяналізм", ён сцвярджае, што нацыяналізм -- гэта палітычны прынцып, які зыходзіць з неабходнасці супадзення палітычнай і нацыянальнай супольнасці, а сама па сабе ідэалогія нацыяналізму -- паняцце вельмі шырокае і шматзначнае, якое здольна аб'яднаць людзей розных сацыяльна-палітычных думак, прадстаўнікоў супрацьлеглых арыентацый. Спадар Роўда спыніўся таксама на негатыўным успрыняцці тэрміна "нацыяналізм" у нашай рэчаіснасці і патлумачыў, што слова гэта ёсць не што іншае, як сінонім слова "патрыятызм", значэнне якога было звужана да адмоўнага савецкімі ідэолагамі. Такім чынам, скажэнне сэнсу тэрміна можна разглядаць як наступства пэўнай гістарычнай сітуацыі, а таксама пэўнай адукацыяй навукоўцаў і даследчыкаў.

Дырэктар даследчага Цэнтра сацыяльнай дынамікі Уладзімір Падгол прапанаваў для абмеркавання сваю распрацоўку "Ідэалагемнае поле "Наш дом -- Беларусь" як базавая мадэль сучаснай інтэграцыйнай ідэалогіі беларускага соцыума", якая выклікала жывую цікаўнасць і дыскусію. У ёй выкладаюцца практычныя шляхі дэідалазацыі нацыянальнай ідэі праз стварэнне пэўнага ідэалагемнага поля.

Развіццё сучаснай беларускай ідэалогіі па-іншаму разглядаюць прадстаўнікі ліберальнай плыні. Напрыклад, доктар філасофскіх навук Левяш згодзен, што трэба як мага хутчэй напоўніць Богам дадзены суверэнітэт рэальным зместам, і перакананы, што без нацыянальнай ідэі зрабіць гэта немагчыма. На яго думку, б эуская ідэя павінна быць не рэтра, /тура і ўключаць самае лепшае: цяперашні інтэлектуальны патэнцыял, выгаднае геапалітычнае становішча і самабытную культуру. Усё гэта мусіць быць змадэліравана ў выглядзе паслання свету, у якім ён не пакідае месца нацыяналізму ў любым яго в лядзе.

Вядомы журналіст Юры Д ахруст у сваім паведамленні "Вопыт практычнай міфалогіі" звярнуў увагу на тое, што пытанне выпрацоўкі ідэалогіі як прадукту і сацыяльнага тавару і пытанне выкарыстоўвання такога тавару і фармаванне заказу на яго ёсць дзве асобныя праблемы. Ён таксама падкрэсліў, што тая частка насельніцтва, якая сёння не адказвае на пытанне: "Хто ёсць беларусы?", з пункту гледжання моўнай дэфініцыі, не з'яўляецца ідэалагічна пустой, а запоўнена пэўным зместам, і яна складае большую частку беларускага насельніцтва.

Былы спіч-мэйкер прэзідэнта і цяперашні аглядальнік "Белорусской деловой газеты" Аляксандр Фядута выклаў асабістае бачанне сучаснай ідэалогіі ці, хутчэй, асабістыя пункты яе практычнага прыкладання ў цяперашнім становішчы. Ён паспрабаваў спрагназаваць, які сацыяльны заказ можа быць запатрабаваны ў самай бліжэйшай будучыні, зыходзячы з таго, што Беларусь -- незалежная дзяржава ў цяперашніх яе межах, а новы тавар будзе толькі спрыяць узмацненню яе суверэнітэту. На думку сп. Фядуты, у сучаснай ідэалогіі не павінен ігнаравацца факт, што большая частка насельніцтва Беларусі рускамоўная, а таму такая ідэалогія не павінна быць негатыўна-агрэсіўнай да гэтай часткі грамадства. Больш таго, паколькі гэта асноўная большасць лепей ведае рускую або нават еўрапейскую культуру, ён лічыць мэтазгодным прапагандаваць беларускую культуру не метадам яе адметнасці і вызначэння ў свеце, а наадварот, метадам падкрэслівання падабенства з вышэйназванымі культурамі, так бы мовіць, шляхам унясення яе ў агульны кантэкст сусветнай культуры.

Другі аспект, які мусіць быць улічаны на даным этапе, -- геапалітычны. Іншымі словамі нельга не зважаць на тое, што вялікую колькасць насельніцтва ў Беларусі складаюць пенсіянеры і ваеннаслужачыя былой Савецкай Арміі, якія пакуль пэўна арыентаваны на Усход і для якіх Захад заўсёды асацыіраваўся з вобразам ворага. У такім выпадку Аляксандр Фядута таксама прапануе метад "мяккага пераключэння" менталітэту праз прапаганду ўжытку элементаў заходняй культуры, эканомікі ў Расіі, накшталт ідэалагем "там рынак, як на Захадзе", "Расія атрымлівае крэдыты з Захаду" і г.д., а такім чынам Захад ёсць не толькі зло, але і прагрэс. Пытанні прапаганды рыначнай эканомікі і прыватнай уласнасці, якія найчасцей асацыіруюцца з абрабаваннем мас і ўзбагачэннем асобных людзей, наогул прапануецца пакуль зняць і падмяніць гаворкай аб абароне правоў чалавека, у тым ліку -- правам кожнага на частку агульнанацыянальнай уласнасці.

Ну і апошнім (і галоўным) у сённяшніх варунках сп. Фядута лічыць пастаноўку пытання не "хто ёсць беларусы", а "што ёсць Беларусь?". Адсюль вырашальным у вызначэнні і падзяленні як практычных палітыкаў, так і распрацоўшчыкаў сучаснай ідэалогіі будзе адказ на пытанне: "Ці лічыце вы неабходным далейшае існаванне Беларусі як суверэннай незалежнай дзяржавы?"

Менавіта пазітыўны адказ на данае пытанне, па меркаваннях сп. Фядуты, зможа рэальна аб'яднаць абсалютную большасць беларускай эліты, інтэлігенцыі і наогул грамадства.

Нават з гэтых тэзісных нататкаў можна здагадацца, наколькі цікавай была дыскусія і гарачымі спрэчкі.

Што, на маю ўласную думку, не прагучала акрэслена на семінары, дык гэта, як і адкуль пачынаецца ідэнтыфікацыя асобы як грамадзяніна і суб'екта пэўнай нацыянальнай культуры. Увогуле гэта робіцца проста: кожны павінен даць сабе адказ на тры пытанні: хто ёсць я? хто ёсць яны? і хто ёсць мы? Пакуль на ўсе тры пытанні, відавочна, адказала агульная меншасць. Дапамагчы адказаць астатнім якраз і мусіць стаць мэтай распрацоўшчыкаў сучаснай ідэалогіі праз сродкі масавай інфармацыі, сацыялагічныя апытанні і г.д. На гэта звярнуў у сваім дакладзе ўвагу ўдзельнікаў дацэнт Пецярбургскай акадэміі культуры Валянцін Грыцкевіч. Вынікі данага семінара ён жа падсумаваў наступным чынам:

-- Сёння я бачу, што адраджэнне гістарычнай навукі, гістарычнай думкі на Беларусі адбылося беспаваротна. Істотныя змены ў меркаваннях спецыялістаў сведчаць аб іх разуменні неабходнасці пашыраць і паглыбляць гістарычную культуру, веды і далейшае іх распаўсюджванне сярод насельніцтва. Уласна для сябе, як навукоўца і выкладчыка, мне было вельмі цікава і карысна пазнаёміцца з распрацоўкай псіхалагічных падыходаў у дакладах сп. сп. Падгола і Бабкова. Самае галоўнае, на маю думку, што гэта сустрэча насіла перспектыўны характар, пэўныя прапановы якой пачынаюць распрацоўваць і рэалізоўваць сёння, а іншыя будуць здзейснены на пачатку XXI стагоддзя.

Таіса БАНДАРЭНКА.

## У ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"





Дзесяць дзён яны правялі ў Мінску. Тут праходзілі чарговыя курсы павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкіх калектываў нашых суайчыннікаў. Арганізацыйныя клопаты, як заўсёды, падзялілі Інстытут праблем культуры і таварыства "Радзіма". Удзельнікі курсаў прыехалі на гэты раз з Літвы, Латвіі, Польшчы і Эстоніі.

-- Жыццёвая сталасць і маладосць -- такое спалучэнне, несумненна, будзе спрыяць рабоце, -- зазначыла пры першым знаёмстве з курсантамі супрацоўніца інстытута Сняжана Галоўчыц.

Яе прароцтва спраўдзілася. Ніна Аўгусціновіч і Ніна Цыванюк з Беластока знаходзілі агульную мову з юнай Вольгай Блажэвіч з Вільнюса, а нашы бліжэйшыя суседзі Дзіяна Пчола і Валянціна Федаровіч з Літвы сябравалі з талінскім "дуэтам" Таццянай Ніжнік і Галінай Багданец. Разам хадзілі на лекцыі, пабывалі на рэпетыцыях Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята", народнага ансамбля "Веды", пазнаёміліся з работай Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, сустрэліся з удзельнікамі фальклорнага вакальна-харэаграфічнага ансамбля "Валачобнікі". У распараджэнні нашых суайчыннікаў была і багатая музычная бібліятэка Інстытута праблем культуры, што дазволіла ўдзельнікам курсаў папоўніць свой рэпертуар нотамі і запісамі новых музычных твораў.

-- На мой погляд, -- сказала пры развітанні Ніна Цыванюк, -- такія сустрэчы для нас, беларусаў, што жывуць за мяжой, вельмі карысныя і патрэбныя, каб не гублялася сувязь з радзімай.

**"А Радзіме дарагой**
**Ад душы жадаем**
**Шчасця, поспехаў, дабра --**
**У госці запрашаем!"**

Так напісала ў сваім водгуку аб знаходжанні ў Мінску Таццяна Ніжнік.

Што ж, да новых сустрэч, сябры!

**А. ГРУДНЕНКА.**

## НА СВЯЦЕ СЛАВЯНСКАГА СЛОВА

Сёлета 24--25 мая ў Даўгаўпілсе прайшлі Дні славянскага пісьменства, якія не праводзіліся ў Латвіі з даваеннага часу. Тутэйшым беларусам з культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" было асабліва радасна, бо на гэтае свята прыехалі госці з Мінска -- пісьменнікі Сяргей Панізьнік і Вячаслаў Рагойша.



Свята пачалося з урачыстага малебна ў гонар святых Кірыла і Мяфодзія ў Барыса-Глебскім саборы. А вечарам у Цэнтры рускай культуры прайшла навукова-асветніцкая канферэнцыя, на якой таксама меў слова прафесар Беларускага універсітэта В.Рагойша. Спадар Рагойша гаварыў аб узаемным уплыве славянскіх культур, аб беларускіх асветніках, якія ўнеслі вялікі ўклад у скарбніцу славянскага пісьменства. Да гэтай канферэнцыі сябрамі "Уздыму" была падрыхтавана выстава беларускай кнігі і беларускай перыёдыкі, над якімі ўзвышаліся лікі Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Мілецыя Смятрыцкага, Сымона Буднага...

Назаўтра ў суботу свята прадоўжылася ў цэнтральным парку народным гуляннем, дзе, як адзначыў мясцовы друк, каларытным было выступленне даўгаўпілскага беларускага ансамбля "Купалінка", а таксама гасцей-мінчан і аўтара гэтых радкоў. Паэт Сяргей Панізьнік, сказаўшы прачулыя прывітальныя словы, прачытаў свой верш, прысвечаны Ефрасінні Полацкай...

На развітальнай вячэры неаднойчы выказвалася спадзяванне, што Дні славянскага пісьменства ў Даўгаўпілсе стануць штогоднымі.

**С.ВАЛОДЗЬКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: эмблема свята; на Днях славянскага пісьменства ў Даўгаўпілсе сябры "Уздыму" разам з гасцямі С.ПАНІЗЬНІКАМ і В.РАГОЙШАМ.**



АЛЕСЬ БУРБІС: АД "МЕЙШАГОЛЬСКАЙ РЭСПУБЛІКІ" ДА БССР

# ЁН ХАЦЕЎ АДКРЫЦЬ ВОЧЫ СВАЙМУ НАРОДУ

Пісаў шмат пракламацый і адозваў, удзельнічаў у міжпартыйных нарадах, на якіх, як правіла, браў слова і з імпэтам адстойваў ідэі Грамады. Шмат сіл і энергіі патрабавала сапраўдная барацьба з беларускімі чарнасоценцамі, якія адразу ж пасля звяржэння царызму звар'яцела пайшлі ў атаку на ўсё беларускае, нацыянальнае... У сваіх ацэнках і вывадах, пры адстойванні пазіцый Бурбіс, як засведчылі паплечнікі і нават сапернікі, быў цвёрды і непахісны, катэгарычны і заўзяты, а іншы раз -- проста адчайны. Вось што пісала аб ім Палута Бадунова: "Гэты маленькі ростам чалавек з вялікай жывой душой рупліва ўзіраўся светлымі, поўнымі жыцця і розуму вачамі ў кожнага, хто называў сябе беларусам. Цвёрдым, гучным голасам, незвычайна моцным для яго маленькай фігуркі, ён проста ставіў пытанне:

-- Ты хто? Мо ты за грошы любіш свой народ? Можа толькі з карыслівымі мэтамі падыходзіш да справы агульнай?

І гора таму, каго яму ўдавалася злавіць на месцы праступку. Няшчадна кляйміў ён яго самымі ганебнымі, самымі цяжкімі словамі:

-- Гэта злодзей! -- грымеў ён, -- гэта той, хто як Каін, забівае насмерць свайго брата-беларуса, аддаючы яго на загубу то маскалю, то паляку, то пану, то чыноўніку..."

Нацыянальны ўціск, лічыў А.Бурбіс, ёсць загуба душы народнай, а "вызваленне нацыі з уціску не менш патрабуе энергіі і працы, як і дасягненне сацыялістычнай роўнасці". "Свабодная душа Бурбіса, -- падкрэслівала П.Бадунова, -- не магла выносіць ніякага ўціску". І далей: "Гэтым і тлумачыцца тое, што ён часта быў запартыйным".

Паплечніца Бурбіса, аднадумца яго па БСГ, Палута Бадунова ведала яму цану, яго справу, набыткі.

Яны пазнаёміліся ў 1917 годзе ў Маскве, дзе меўся адбыцца з'езд Грамады. Перад гэтым Палута шмат чула пра яго... Ал[illegible]зд не сабраўся: не прыехалі дэлегаты. Тыя ж, што прыехалі ў Маскву: Алесь Гарун, Аркадзь Смоліч, Зміцер Жылуновіч, Палута Бадунова і яшчэ некалькі чалавек, сабраліся на кватэры ў Алеся Бурбіса. Вось якія ўражанні аб ім узніклі ў Палуты: "Яго глыбокая любоў да абяздоленых, хто сваім маналітам корміць свет, адразу адкрывалася перад вамі і лілася ракой прамой, поўных моцы і хараства. Часта перасыпаў ён сваю прамову смешнымі жартамі, цікавымі народнымі прыказкамі, што яшчэ больш надавала свежасці яго думкам".

...А потым быў Усебеларускі бежанскі з'езд у Маскве, Язэп Васілевіч, Фёдар Турук, Аляксандр Цвікевіч былі яго арганізатарамі. Выступаючы ад імя Грамады Палута Бадунова сцвярджала, што "Беларусь -- гэта не Русь", што "беларусы як нацыя маюць права на вольнае незалежнае існаванне".

-- Гэта правакацыя! -- крычалі некаторыя маскоўскія беларусы. -- Нашто нам здалася беларуская мова?

Алесь Гарун, Язэп Дыла цэлымі гадзінамі даказвалі дэлегатам і гасцям з'езда правату Бадуновай.

-- Гэта русіфікатары, чорная сотня, яны хочуць Міколу II на трон пасадзіць. Яны дапамагалі рускім царам душыць беларусаў, дык што ім трэба на гэтым беларускім з'ездзе? -- сказаў сваім звычным палымяным голасам Алесь Бурбіс.

25 сакавіка 1917 года Бурбіс прыняў удзел у рабоце з'езда беларускіх грамадскіх дзеячаў у Мінску. Шырокую пагалоску атрымаў тады інцыдэнт паміж дэлегатамі і запрошаным на з'езд памочнікам губернскага камісара правым эсэрам Метліным. Вось як апісаў здарэнне З.Жылуновіч: "Метлін, абраны ў прэзідыум, у прывітальным слове пачаў разводзіць эсэраўскую (з сапраўды рускім духам) антымонію накшталт таго, што "ніякіх беларусаў няма", што "ўсялякі нацыянальны рух не да часу", пакуль "не будзе давeдзена да канца вайна і Устаноўчы сход не вызначыць лёсу вялікае Расіі" і інш. Агульнае абурэнне з'езду было адказам на гэтае прывітанне прадстаўніка "рэвалюцыйнай" улады. А.Бурбіс абурэўся больш за ўсіх і першы пачаў гнаць Метліна з памяшкання з'езда. Калі Метлін мусіў пакінуць з'езд, то некалькі прыхільнікаў Метліна накінуліся на Бурбіса з кулакамі, лаянкамі і крыкамі". З такім жа гневам, сведчыў Зміцер Жылуновіч, выступаў Алесь Лаўрэнавіч на шматлікіх мерапрыемствах у Маскве і Мінску, на Дзяржаўнай нарадзе, скліканай Керанскім летам 1917 года, у беларускім друку таго часу... Самадзяржаўе, якое несла на Беларусь гвалтоўную русіфікацыю, атрымлівала рашучы і бязлітасны адпор на працягу ўсёй яго дзейнасці і барацьбы. "Гэтыя яго выступленні, -- зазначаў будучы першы кіраўнік беларускай дзяржавы, -- з'яўляюцца прыгаворным вердыктам аджываючай чарнасотніцкай вялікадзяржаўнасці..."

З'яўляючыся адным з заснавальнікаў і ўплывовых дзеячаў БСГ, Бурбіс пільна стаяў на варце чысціні традыцый Грамады. Пасля расколу яе летам 1917 года, калі левыя грамадоўцы ўзялі рэзкі крэн у бок марксізму, ён усур'ёз занепакоіўся і ўсхваляваўся. Не адно пісьмо адправіў А.Бурбіс кіраўнікам пецярбургскай, віцебскай і бабруйскай арганізацый Грамады, дзе яскрава, на прыкладах паказваў і падказваў, якіх трэба трымацца праграмных указанняў, тактычных ходаў і дзеянняў. Але не дапамагло: да яго парад тыя аказаліся глухімі...

**Мікалай БАНДАРЭНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 24--25.**

Дантэ АЛІГ'ЕРЫ

# ДЗВЕ ПЕСНІ З "БОСКАЙ КАМЕДЫІ"

## ЧЫСЦЕЦ

*ПЕСНЯ ДЗЕВЯТАЯ*

1 Сяброўка састарэлага Тыфона [1]
На ўсходзе ў белай вопратцы ўзышла
З абдымкаў сябра -- і яе карона,

4 Што жэмчугамі ззяла ля чала,
З халодным павуком, чый хвост -- як шыла, [2]
Адразу падабенства набыла.

7 Калі пад'ём цямрэча завяршыла
Там, дзе былі мы, і, свой трэці крок
Зрабіўшы, крылы прыспусціць рашыла, --

10 Глыбокі сон урэшце перамог
Смяротнага Адамава нашчадка --
І, дзе сядзелі мы ўпяцёх[3], я лёг.

13 На досвітку, калі пяе касатка [4]
Так жаласна, усеўшыся на плот,
Нібы яе гняце цяжкая згадка;

16 Калі наш розум ад зямных турбот
І цела вызваляецца, бы шоры
Здымае, і падзей прадбачыць ход, --

19 Прысніўся мне арол залатапёры,
Які лунаў у небе і на дол,
Каб зноў памкнуцца ў светлыя прасторы,

22 Хацеў зляцець. Я зразумеў: арол
Палюе тут і ног не абражае
Другімі месцамі, што ёсць наўкол.

25 Мне схіл гары мясціну нагадае,
Скуль Ганімед[5] узнёсся ўвышыню --
Туды, дзе сход нябесны засядае.

28 Зрабіўшы круг, хутчэй за маланню
Упаў з нябёс драпежнік у даліну
І ўзняў мяне да пояса агню. [6]

31 У жудасную гэтую хвіліну
Нас падпаліў пякельны небасхіл --
І вочы я адкрыў напалавіну.

34 З разгубленасцю гэткаю Ахіл[7],
Напэўна, адкрываў свае павекі,
Калі ён, поўны доблесці і сіл,

37 Пазбавіўся Хіронавй апекі,
Матуляй перанесены на Скір,
Адкуль яго затым укралі грэкі.

40 Я пабялеў, як збэшчаны жуір,
Спужаны неабходнасцю такою,
Як з кручы даць нырца ў халодны вір.

43 Адзін настаўнік побач быў са мною.
Ды сонца двухгадзіннае плыло
Над неабдымнай далеччу марскою.

46 "Не бойся! Горш не будзе, чым было, --
Сказаў важак. -- Да добрага прычала
Мы падплываем. Распагодзь чало!

49 Вось агароджа, што апаясала
Чысцец. А гэтая дзіра ў сцяне
Ўваходам у другое царства стала.

52 На золаку, калі ўдыхаў у сне
Твой дух лагчыны водары густыя,
Прыйшла жанчына і сказала: "Мне,

55 Чыё імя нябеснае -- Лючыя[8],
Карціць таму, хто спіць, аблегчыць шлях,
Бо душы светлыя нам не чужыя".

58 І ўверх цябе панесла на руках.
Без Ніна, без Курада, без Сардэлла --
Адзін пайшоў я па яе слядах.

61 Паклала здань тваё жывое цела,
Ход паказала і крыху раней,
Чым ты прачнуўся, прэч пайсці паспела".

64 Як чалавек, якому спакайней
Зрабілася, як толькі сутнасць справы
Змагла адкрыцца перад ім ясней,

67 Змяніўся я. Спакойны і рухавы --
Пайшоў угору ўслед за важаком
Да паннаю паказанай заставы.

70 Чытач, адчуй душы маёй пад'ём
І не здзіўляйся, што я тон узвышу.
Туды, дзе ў агароджы быў праём,

73 Які мне формаю нагадваў нішу
І напалам дзяліў сабой сцяну,
Ішлі мы і не парушалі цішу.

76 Убачу я, калі ніжэй зірну,
Пасля прыступкі тры і вартавога,
Які пакуль адкладваў гаману.

79 Сядзеў ён на парозе і нястрога
На нас глядзеў, ды гэтак, што не змог
Я вынесці яго агню жывога.

82 Ён вартаваў чысцілішча парог
З мячом бліскучым у руках -- і ззянне
Таго мяча бянтэжыла мой зрок.

85 "Скажыце мне: якое ў вас жаданне!
Хто ваш важак! Глядзіце, -- ён сказаў, --
Каб не гняло вас потым шкадаванне".

88 "Нам гэтыя вароты паказаў
Пасол нябесны і сказаў: "Ступайце!" --
Такі адказ настаўнік мудры даў.

91 "Дык падыходзьце. Часу не губляйце! --
Сказаў высакародны вартавы, --
І крокі ўсе свае зацвердзіць дайце

94 Паслу нябёс абавязкова вы".
Прыступкай першаю быў мармур белы --
І я адбіўся ў ім, нібы жывы.

97 Парэпаны, шурпаты і счарнелы --
У месцы тым прыступкаю другой
Служыў блакітны камень абгарэлы.

100 Ступень апошняя была плітой
З парфіру колеру крыві, што з вены
Звяргаецца пунсоваю ракой.

103 Апірышчам з'яўляўся камень гэны
Для ног вартаўніка, які сцярог
Парог алмазны ўноч і ўдзень без змены.

106 "Прасі, каб ход ён адчыніць памог", --
Мяне рука праведніка нагнула,
Я кінуўся даверліва да ног

109 Вартаўніка, які замест стула
Парог выкарыстоўваў, сам сябе
Рукой ударыў тры разы прачула.

112 І на маім чале мячом сем "Р" [9]
Ён начарціў, сказаўшы: "Пастарацца
Павінен ты, каб не магло на лбе

115 Тваім ніводнай літары застацца".
Сярэбраным і залатым ключом,
Прывыкшымі ад позіркаў хавацца

118 Пад попельнага колеру плашчом,
Крылаты брамнік адамкнуў вароты --
І я заззяў ад шчасця каганцом.

121 Калі не так, як трэба, абароты
Ключамі робіш ці ключом адным
Адкрыць імкнешся браму, -- нізашто ты

124 Яе не адамкнеш. Больш дарагім
З'яўляецца адзін з ключоў. Спружына
Усё ж вызваляецца ключом другім.

127 "Каго б сюды ні прывяла сцяжына, --
Мне Пётр[10], ключы ўручаючы, сказаў, --
Пускай усіх, чыя сагнута спіна".

130 "Хутчэй заходзьце! -- жэстам паказаў,
Куды ісці нам трэба, брамнік шчыры. --
Але, каб я назад вас не прагнаў,

133 Не азірайцеся". І ўраз шарніры
Гук выдалі такі, бы нехта ў лёх
Па жолабе каменным коціць гіры.

136 Тарпейскі ўцёс[11] так грукацець не мог,
Калі ад Цэзара заслон Мецела
Казну, як ні стараўся, не ўберог.

139 Аднак не толькі брама грукацела
Ў імгненне тое -- да маіх вушэй
Аднекуль і "Te Deum"[12] даляцела.

142 Нібыта пад арган крыху вышэй
Псалмы святыя вернікі спявалі,
І слых, калі -- грамчэй, калі -- цішэй,

145 Прыгожыя напевы турбавалі.

## РАЙ

*ПЕСНЯ ДВАЦЦАЦЬ ТРЭЦЯЯ*

1 Як птушка, што ў лісці ля птушанятак
Час прабаўляе ў цемрадзі начэй
З жаданнем шчырым за другі занятак --

4 Здабычу ежы для сваіх дзяцей,
Якую з радасцю яна шукае, --
Ізноў прыняцца як мага хутчэй,

7 Глядзіць удалеч, досвітку чакае,
Пакуль начная шэрая імгла,
Азораная сонцам, не знікае,

10 Так Беатрычэ[13] вочы падняла
Туды, дзе замаруджваюцца крокі
Няўрымслівага носьбіта святла.

13 Мне позірка яе палёт высокі
Надаў спакою -- і ў душы маёй
Чакання забруіліся вытокі.

16 І я , сагрэты гэтаю бруёй,
Пачуў у хуткім часе нечакана
Ад любай спадарожніцы сваёй:
19 "Тут воінства свяшчэннае сабрана,
Каб славіць трыумфатара Хрыста.
Твой голад наталіць яно прызвана".

22 Свяцілася такая пекната
У позірку вачэй яе натхнёных,
Што вусны мне скавала немата.

25 Як Трывія, якая для ўлюблёных
Гарыць у акружэнні вечных німф[14]
Сярод нябёс, цямрэчай заімглёных,

28 Або як дзённага свяціла лімб,
Гарэла сонца[15], навакол якога
Спрадвечных яснасцей свяціўся німб.

31 Сярод свячэння яркага, жывога
Так Божай Сутнасці іскрыўся лік,
Што я не вынес полымя святога.

34 О Беатрычэ, любы кіраўнік!
"Цябе, -- яна сказала, -- паразіла
Пяшчота, да якой ты не прывык.

37 У ёй і Мудрасць Вечная, і Сіла,
Якая нам між небам і зямлёй
У рэшце рэшт гасцінец пралажыла".

40 Як рве, спавітая густой імглой,
Маланка ненавісныя палёнкі
І ўніз імкне чамусьці, розум мой

43 Так вырваўся з прыроднай абалонкі.
І да мяне цяпер з далечыні
Успаміны не імчаць наперагонкі.

46 "Расплюшчы вочы, на мяне зірні!
Ты не аслепнеш ад маёй усмешкі,
Бо звыкся з яркім ззяннем вышыні".

49 Быў я падобны на таго, хто сцежкі
Да з'явы, што забылася, не змог
Зноў адшукаць ні на кані, ні пешкі.

52 Ды я навек запомніў, далібог,
Яе прамову і ў свае скрыжалі
Упісаў яе для будучых эпох.

55 Каб вусны ўсе, якія паспыталі
Палімніі[16] густога малака,
Мне памагаць адначасова сталі,

58 Не апісала б наша талака
Азоранага ўсмешкай незямною
Майго прыгожага праведніка.

61 Таму стаеннік, зацуганы мною,
Праз перашкоды скача іншы раз,
А часам іх мінае стараною.

64 Нялёгкі ўзяўся весці я расказ --
І мне не соромна аслабіць шпоры
Ці повад адпусціць на нейкі час.

67 Дзіравай лодцы нельга плыць па моры,
Як і плыўцу, што адчувае страх,
Як толькі ўбачыць сінія прасторы.

70 "Каханне да мяне ў тваіх вачах,
А там, наверсе, вотчына Хрыстова
І краскі дзіўныя ў Яго садах!

73 Там -- ружа, што Спагадлівае Слова
У плоць ператварыла. Пах лілей
Цябе прывабіць там абавязкова,[17]" --

76 Сказала Дама, што за ўсіх мілей.
Не мог я не паслухацца загаду
І паглядзеў туды, дзе Эмпірэй[18].

79 Напэўна, зрок мой выклікаў спагаду,
Бо засвяціўся, бы квяцісты луг,
Заліты промнямі, што свецяць ззаду

82 Ці праз разрывы хмар, жывы ланцуг
Душ праведных, якія апраменьваў
Нябачны для мяне Вышэйшы Дух.

85 Уражаны, стаяў я і ацэньваў
Тактоўнасць Непадзельнай Дабрыні,
Якую я на дробязі разменьваў.

88 А словы аб цнатлівай чысціні
Той ружы, на якую я малюся,
Дух неслі мой да новай вышыні.

91 Яшчэ вышэй паглядам я ўздымаўся --
І Той, што царавала на зямлі,
Як угары царуе, пакланюся.

94 О як яна свяцілася, калі
Ласкава промні светача жывога
Яе вянком рухомым абвілі.

97 Мелодыя, што жыхара зямнога
Ўлагоджвае, адразу б набыла
Там гучнасць перакату грамавога

100 У параўнанні з той, чыя хвала
Вянчае бляск прыгожага сапфіра --
Крыніцы цудадзейнага святла.

103 "Любоўю ўсіх насельнікаў эфіра
Ля чэрава, што для надзей святых
Было жытлом, датуль мне віцца шчыра,









Хутка год, як побач з пасёлкам Рось Ваўкавыскага раёна з'явіўся пасёлак "Рось-2". Гэты своеасаблівы мікрараён пабудаваны за кошт германскіх сродкаў і пры дапамозе нямецкіх спецыялістаў для сем'яў ваеннаслужачых, якія выведзены з Германіі. Усяго ў пасёлку 825 кватэр. У іх жывуць як цяперашнія ваеннаслужачыя, так і ваенныя пенсіянеры, людзі, звольненыя з арміі па скарачэнню штатаў.

У пасёлку ёсць магазін, дзіцячы сад на 330 месцаў, школа на 33 класныя камплекты, гандлёвы цэнтр, камбінат бытавога абслугоўвання, заканчваецца абсталяванне бальніцы на 50 месцаў.

А ў старым пасёлку Рось -- адна з лепшых на Гродзеншчыне школа мастацтваў, якой сёлета споўніцца 10 гадоў. Многія выпускнікі школы сталі выдатнымі музыкантамі і мастакамі. Зараз тут вучаць ігры на фартэпіяна, баяне, скрыпцы, цымбалах, домры, а [illegible]та харэаграфічнае аддзял[illegible], дзе навучаюць мастацтву танца, на мастацкім аддзяленні дзеці пачынаюць маляваць, рабіць скульптуры, ляпіць. Многія вучні паказвалі свае работы на выставах, удзельнічалі ў аглядах мастацк[illegible]мадзейнасці.



НА ЗДЫМКАХ: "Рось-2" вызначаецца сучаснай адметнай архітэктурай; чатырохгадовыя сястрычкі-блізняты Алеся і Алёна МАЙСЕЙЧЫКАВЫ разам ходзяць у дзіцячы сад; маёр Уладзімір ЛУПІКАЎ і яго жонка Алена задаволены жыццём у новым пасёлку. Два астатнія здымкі зроблены ў школе мастацтваў -- пад кіраўніцтвам педагога У. БАРЫЕВА юныя мастакі рыхтуюць работы да выставы; педагог па класу цымбалаў Наталля ЖУК восем гадоў вучыць дзяцей музыцы.

# ДЗВЕ ПЕСНІ З "БОСКАЙ КАМЕДЫІ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**106 Пакуль, Царыца высяў незямных,**
**Ты ў Эмпірэй не ўздымешся да Сына,**
**А неба не засведчыць гэты міг".**

**109 Заціхла кальцавая акарына --**
**І да Марыі згодны покліч свой**
**Узвысіла нябесная сябрына.**

**112 Вялізарны раскручаны сувой**
**Апошняй сферы, подыхам Гасподнім**
**Ажыўлены ў мяне над галавой,**

**115 Свет асяняў пяшчотна бокам споднім --**
**І мне было шкада, што мы не ўсе**
**Дыханнем Бога позіркі аплоднім.**

**118 Не змог я прасачыць, як пакрысе**
**Увенчаны агонь скіруе рухі**
**Ўгару за Сынам дарагім услед.**

**121 Як цягне немаўля да маці рукі,**
**Выдаючы ў цнатлівай цішыні,**
**Наеўшыся, здаволеныя гукі,**

**124 Угору працягнуліся агні,**
**Каб выказаць любоў да цнотнай Дзевы**
**Вяршынямі сваімі ўвышыні.**

**127 І да мяне данесліся іх спевы.**
**"Regina coeli[19]" спелі так яны,**
**Як на зямлі буяюць іх пасевы.**

**130 О колькі ў гэтых куфрах збажыны**
**Стараннем Усявышняга сабрана,**
**Крупінак тых, якім няма цаны!**

**133 Тут скарбы з Вавілона, дзе аддана**
**Служылі не манеце залатой,**
**Дзе духу аддавалася пашана[20].**

**136 Тут з новаю гурмою і старой[21]**
**Пад сынам Бога і Марыі права**
**Свой подзвіг ушаноўваць мае той,**

**139 Каму ключы ўручыла гэта слава[22].**

*ТЛУМАЧЭННІ*

1. Тыфон (Тытон) – у грэчаскай міфалогіі бажаство патухлага святла. Каханкаю Тыфона была Эас (Аўрора) – багіня ранішняй зары. Аднак пад сяброўкай Тыфона Дантэ хутчэй за ўсё разумее ззянне перад узыходам Месяца.
2. Маецца на ўвазе сузор'е Скарпіён.
3. Г.зн. сам Дантэ, рымскі паэт Вергілій (70-19 г.г. да н.э.), які з'яўляецца праваднікам Дантэ праз Пекла і Чысцец да Зямнога Раю, а таксама душы Ніна Вісконці (правіцеля Галуры ў Сардзініі), Курада Маласпіна Малодшага (маркіза Луніджаны) і мантуанскага паэта Сардэлла, якія далучыліся да Дантэ і Вергілія ў Прадчысцілішчы.
4. Маецца на ўвазе швагерка фракійскага цара Тэрэя Філамена. Пасля таго, як яго жонка Прокна, помсцячы мужу за здраду з сястрой, забіла свайго сына Іціса і яго мясам накарміла Тэрэя, Філамена, Прокна і Тэрэй ператварыліся адпаведна ў ластаўку, салаўя і ўдода. (Гл. Авідзій, "Метамарфозы", VI, 424--674).
5. У адпаведнасці з грэчаскай міфалогіяй сын траянскага цара Троса Ганімед быў украдзены Зеўсам, які прыняў выгляд арла, і са схілаў гары Іды на Крыце перанесены на гару Алімп.
6. У часы Дантэ лічылася, што між сфераю паветра і небам Месяца знаходзіцца сфера агню.
7. Калі юны Ахіл выхоўваўся ў кентаўра Хірона, яго маці марская багіня Феціда, ведаючы, што яе сыну наканавана загінуць на вайне, перанесла соннага Ахіла на востраў Скір, але грэкі Уліс (Адысей) і Дыямед знайшлі яго там -- і Ахіл быў вымушаны прыняць удзел у Траянскай вайне.
8. Лючыя -- хрысціянская святая.
9. Сем "Р" азначаюць сем смяротных грахоў, ад якіх належыць ачысціцца пры ўзыходзе на гару Чыстца ( "Р" -- першая літара лацінскага слова "peccatum" -- "грэх").
10. Пётр -- адзін з дванаццаці апосталаў Хрыста, першы Папа Рымскі.
11. Пад тарпейскім уцёсам Капітолія, аднаго з сямі пагоркаў, на якіх узнік старажытны Рым, знаходзілася дзяржаўная казна. Калі Цэзар патрабаваў выдачы яму гэтай казны, народны трыбун -- Мецел -- адмовіў яму, і той адкрыў дзверы сілай.
12. "Te Deum" -- лацінскі царкоўны гімн "Цябе, Бога (хвалім)".
13. Беатрычэ -- жанчына, якую з дзяцінства любіў Дантэ. У "Боскай камедыі" з'яўляецца яго праваднікам па Раі.
14. Маецца на ўвазе Месяц, увасабленнем якога была Трывія (Дыяна) -- "багіня трох дарог" (лац. -- trivium). Вечныя міфы -- зоры.
15. Г. зн. Хрыстос.
16. Палімнія (Палігімнія) -- муза гімнічнай паэзіі.
17. Маюцца на ўвазе Дзева Марыя і анёлы.
18. Эмпірэй -- месца знаходжання Бога.
19. "Regina cpeli" -- лацінскі велікодны гімн "Царыца неба".
20. Маюцца на ўвазе праведнікі, якія, як яўрэі ў вавілонскім палоне, лічылі сваім галоўным клопатам духоўнае, а не матэрыяльные ўзбагачэнне.
21. Г.зн. са стара- і новазапаветнымі праведнікамі.
22. Маецца на ўвазе апостал Павел.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

220005, Минск, праспект Ф.Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 642.
Падпісана да друку 24.6.1996 г.